АДНА ЗЯМЛЯ

МАЛАДЗЕЧНА

## Лепшы лідэр

Педагог-арганізатар Красненскай сярэдняй школы **Ларыса Карчміт** стала лепшай сярод сваіх калег у абласным конкурсе "Лідэр-98". Туры праходзілі ў аздараўленчым лагеры "Брыганціна", што пад Радашковічамі, і ў сярэдняй школе пасёлка Чысць.

*Аддзел інфармацыі.*

ВІЛЕЙКА

## Параўналі з ліцэем Спінозы

Мясцовая гімназія працуе па Дальтон-плане, які вучыць дзяцей, як самім здабываць веды.

Гэты план распрацаваны ў Амстэрдаме, у ліцэі Спінозы. Па такой сістэме займаюцца 10 навучальных установаў рэспублікі. Спецыялісты з Галандыі сышліся ў думцы, што лепш за ўсіх рэалізуе Дальтон-план Вілейская гімназія.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

АСТРАВЕЦ

## Ленін пабялеў

Перад майскімі святамі ў райцэнтры штогод прыбіраюць вуліцы, фарбуюць бардзюры, добраўпарадкуюць тэрыторыі прадпрыемстваў - з'ява звыклая.

Сёлета мясцовым уладам гэтага падалося мала. У дадатак да звычайнага асартыменту, на галоўнай плошчы пафарбавалі ў белы колер помнік правадыру.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

СМАРГОНЬ

## Сабе даражэй

Сёлета карэнным чынам змянілася сітуацыя са зборам бярозавага соку.

Сольскі завод для сушкі агароднiны ад гэтага карыснага прадукта адмовіўся - спаслаўся на адсутнасць грошай, каб разлічыцца за паслугі лесаводаў. Юрацішкаўскі завод ад соку не адмаўляецца, абяцае разлічыцца на працягу года. Але каму будуць патрэбныя інфляцыйныя грошы? У Смаргонскім лясгасе палічылі за лепшае ўвогуле адмовіцца ад збору соку. Сабе даражэй.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Мы добра працавалі і добра адпачнем

За 1 Мая "хуткая псіхіятрычная дапамога" выязджала на выклікі 21 раз. 14 з іх звязаныя з ужываннем алкаголю. Часцей гэта пярвічнае атручванне. Падчас святаў нагрузка на "хуткую" ўзрастае амаль удвая.

*Аддзел інфармацыі.*

МІНСК

## Не прападзем

РГ" нядаўна пісала пра тое, што на Валожыншчыне падае попыт на газеты і часопісы.

Дырэктар Мінскага абласнога аптова-рознічнага прадпрыемства "Белсаюздрук" **І. Кунскі** пацвердзіў, што валожынскае аддзяленне маладаходнае. Але валожынцы без прэсы не застануцца, бо вобласць выдзяляе неабходныя грошы, каб жыхары раёна не засталіся без друкаванага слова.

*Аддзел інфармацыі.*

МІНСК

## Фонду - 10 год

На ўрачыстасці з нагоды 10-годдзя абласнога аддзялення дзіцячага фонда "Дзецям Чарнобыля" адзначаная сям'я **Чарткоў** з вёскі Журыхі, што на Вілейшчыне. Яе ставілі ў прыклад за выхаванне дзяцей. У Чарткоў іх 10.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

Добрым словам ўспомнілі нашу калегу, карэспандэнта валожынскай райгазеты "Працоўная слава" **Наталлю Штэйнер**. Яна ўсе 10 год на грамадскіх пачатках узначальвае мясцовае аддзяленне фонда.

*Аддзел інфармацыі*

ШЧЭЦІН

## У польскіх калег

20 маладых журналістаў з Беларусі вярнуліся з Польшчы. Яны бралі ўдзел у першым этапе навучальнай праграмы "Журналісты для развіцця дэмакратычнага грамадства на Беларусі".

Арганізавалі яе Фонд развіцця мясцовай дэмакратыі (FRDL, Шчэцін), асацыяцыя "Вольнае слова" (Мінск) і цэнтр "Супольнасць" (Мінск). Нягледзячы на сціслыя тэрміны першага этапу, удзельнікі праслухалі лекцыі па журналістыцы, наведалі рэдакцыі газет "Кур'ер шчэцінскі" і "Глос шчэцінскі", а таксама мясцовае радыё.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ, удзельнік праграмы.*

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА

8 – 14 МАЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 3000 РУБЛЁЎ
№19 (159)

## З Днём Перамогі!

# Радавы міру



ФОТА ЮРЫЯ ЦЕРАБУНА

*МАЛАДЗЕЧНА. Так называе сябе былы франтавік, майстар мастацкай фатаграфіі Аляксей Фяцісаў. Ён не любіць згадваць пра вайну. І на фотаздымках, якія шчыльна месяцца на сценах ягонай кватэры, захоўваюцца ў калекцыях знаўцаў высокага мастацтва, - усё толькі прыгожае: дзеці, жанчыны, кветкі, краявіды...*

- На вайне я ваяваў, а не практыкаваўся ў фатаграфіі, - расказвае Аляксей Кузьміч. - Хаця жаданне такое было з ранняга дзяцінства. Калі ўступілі на тэрыторыю Германіі, нехта золата шукаў, серабро, а я - фотаапараты. Да вайны дзе я тыя залатыя забаўкі ды лыжкі з вензелямі бачыў? Рос у Сібіры, да бліжэйшай чыгуначнай станцыі кіламетраў пяцьдзесят, лыжкі ў хаце толькі драўляныя вадзіліся.

Да самай Перамогі матлялiся на гарматным лафеце трафейныя апараты, іншы раз цэлы "іканастас" атрымліваўся. Аляксей Фяцісаў сваіх знахо-дак ад чужых вачэй не хаваў, дзяліўся з усімі, хто прасіў.

З Берліна вярнуўся радавы Фяцісаў у родную Сібір. На грудзях - ордэны Славы і Айчыннай вайны, медалі, нашыўка за раненне, у сэрцы радасць - жывы застаўся. Так закруціла жыццё, што зноў узяў у рукі фотаапарат (не нямецкі, айчынны - трафейныя парадаваў яшчэ ў Берліне) больш чым праз дваццаць гадоў, калі ўжо "асеў" у Маладзечне. І поўнасцю аддаўся палкай страсці, якая так і не памерла, а толькі на некаторы час затаілася дзесьці ў лабірынтах душы.

Заканчэнне на 2-й стар.

## Віёла з ільвіным зевам

МАЛАДЗЕЧНА. Больш за 150 тысяч кветак высаджваць работнікі зелянгаса на вуліцах горада напярэдадні свята. Гараджане і госці будуць захапляцца вяргінямі, таагецісамі, віёламі, ільвіным зевам.

*Вольга ПАСЛЕД.*

"УРАДЖАЙ"-98

# Рыдлёўкай падчапілі снарад

***МЯДЗЕЛ. Летась на Мядзельшчыне знойдзена і знішчана 5 снарадаў калібрам 76 мм, 2 гранаты Ф1. Сёлета - 5 снарадаў усяго толькі за адзін майскі тыдзень. Нядаўна на прышкольным участку Сырмежскай школы настаўніца працы Эма Харашэй рыдлёўкай падчапіла снарад.***

Колькі год хадзілі па ім дзеці, высаджваючы агародніну. Напярэдадні Дня Перамогі нямецкі "ветэран" выраўшыў здаецца ў палон. Важыць снарад 10 кг, калібр 88 мм. Падчас вайны ён лёгка прабіваў браню танкаў. У той час такога вялікага калібру на ўзбраенні Савецкай Арміі не было. І каб снарад узарваўся, ад школы засталася б толькі велізарная варонка. Знаходку надзейна зачынілі ў школьнай майстэрні.

Група разміноравання на чале з лейтэнантам **Віталем Крукоўскім** аблазіла бліжэйшую да школы тэрыторыю і знайшла яшчэ 2 снарады. Падчас пошуку школьнікаў эвакуiравалі. Снарады ўзарвалі далёка ад вёскі і школы - у нямецкіх бліндажах.

Сырмежская сярэдняя школа пабудаваная ў 1970 годзе. На сёння ў ёй вучыцца 70 дзяцей. Вакол школы лес з бліндажамі, акопамі. У гэтай мясцовасці фронт у часы І Сусветнай стаяў 2 гады. Штогод і вучні, і дарослыя знаходзяць смяротныя сувеніры абедзвюх Сусветных. А каб на школьным участку замест цыбулі вырас велізарны артснарад - гэта ўпершыню.

У вёсцы Балтагузы ў якасці сувеніра селянін падарыў мінёрам снарад. У салдат не было ўжо дынаміту, і яны прыхапілі "падарунак" з сабою.

На мінулым тыдні ў вёсцы Занарач ля жылога дома таксама знайшлі нямецкі артылерыйскі снарад - 75 мм, 6 кг.

У тым, што няма смерцяў, заслуга мясцовага ваенкамата, асабліва яго работнікаў **Эдуарда Лубнеўскага, Алега Радкевіча**; праводзяцца прафілактычныя гутаркі з вяскоўцамі, "сувеніры" ахоўваюцца, своечасова выклікаюцца сапёры.

*Васіль САВІЦКІ.*

ФОТАМАДЭЛЬ РЭГІЁНА

*КАЦЯ, Маладзечна, 16 год, рост 172, вучыцца ва ўлікова-планавым тэхнікуме. - Мне падабаецца добра бавіць час у вясёлай кампаніі. Люблю зайсці ў кафэ - з'есці марожанае. Някепска гуляю ў тэніс.*



ФОТА ЯЎГЕНА СТЭЛЬМАХА.

САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

*Працяг. Пачатак у №№ 8-18.*

## Амерыканскі футбол

Чулі пра яго, напэўна, усе. Ад нашага ён адрозніваецца як матацыкл ад сапёрнай лапаткі. Давялося паглядзець некалькі матчаў па тэлевізары, пасля чаго са здзіўленнем зазначыў, што гульня цікавая. Праўда, уражанне такое толькі ад "падачы матэрыялу". Невыпадкова **Томас Бэк**, у якога на той час кватаравалі, сказаў, што "не разумее гэтую гульню".

Гэта сапраўды шоў. Суперматч камандаў "Packers" з Сан-Дыега (Каліфорнія) і "Broncos" з Дэнвера. Перад пачаткам - абавязковае ўрачыстае прадстаўленне гульцоў, калі трыбуны ўзрываюцца авацыямі на кожнае прозвішча. Мора гледачоў, ідуць на стадыён сапраўды сем'ямі. Для іх гэта від адпачынку. Падчас гульні шум стаіць, як на добрым футболе ў Еўропе.

На зялёнейшым полі - выразная разметка, малюнкі, у гульцоў вельмі яркая, прыгожая форма. Над полем завіс дырыжабль з рэкламамі кампаній.

Звычайныя тэлепаўторы, як і на нашых спартыўных трансляцыях, але ў іх адразу стрэлкамі, кружкамі, святлом акцэнтуюць увагу на самых напружаных і важных участках поля, паказваюць перамяшчэнні гульцоў.

Футбол іхні - гульня жорсткая. Карціна звыклая, калі каго выносяць з поля на насілках. Але Амерыка сытая і спакойная, вострага ёй відавочна не хапае. Таму, напэўна, і нацыянальная гульня такая вось. Але нават гульцы ў футбол маюць значную лішнюю вагу, многія бегаюць па полі з салідньмі жывоцікамі.

Пасля гульні - вялікі канцэрт. Тое, што ў нас гучна назавуць шоў-балетам, ёсць на кожным стадыёнчыку. А многія спевакі б былі зоркамі што расійскай, што беларускай эстрады.

Хаця, натуральна, не футболам адзіным жывая Амерыка. Падчас нашага прабывання там праходзілі Алімпійскія Гульні ў Нагана, і калі наш зямляк-хакеіст **Руслан Салей**, які выступае ў НХЛ, закінуў першую "НХЛаўскую" шайбу на Алімпіядах, ЗША ўзарваліся. Газеты розных штатаў, да якіх Руслан мае такія ж адносіны, як наш рэгіён да Варшавы, змяшчалі яго партрэты, інтэрв'ю. Гарадская газета Дэ Мойна надрукавала яго здымак побач з партрэтам **Уэйна Грэцкі** (дарэчы, карані вялікага хакеіста таксама ў Беларусі!).

Гэта і ёсць своеасаблівы амерыканскі патрыятызм. Газеты пісалі, што Салей з Беларусі, але гуляе ён у Штатах і гэтага дастаткова, каб лішні раз падхваліць Амерыку. Краіна грамадзянам адказвае ўзаемнасцю. І не толькі маральнай.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 29.04 | 6.05 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 82,5 | **адсутн.** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 253,5 | **адсутн.** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | адсутн. | **адсутн.** |
| Селядзец салёны | 1 кг | адсутн. | **адсутн.** |
| Рыс | 1 кг | 28 | **23** |
| Цукар | 1 кг | адсутн. | **29** |
| Грэчка | 1 кг | 30 | **28,5** |
| Алей | 1 л | 60 | **60** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 23,9 | **23,9** |
| Маянэз | 250 г | 17 | **15** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 68 | **68** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 23 | **23** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 24 | **25** |
| Лімоны | 1кг | 60,2 | **60,2** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 28 | **28** |
| Масла | 1 кг | 80 | **75** |
| Тварог | 1 кг | 25 | **25** |
| Малако | 1 л | 8 | **8** |
| Бульба | вядро | 70 | **70** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 28 | **30** |

СТЫХІЯ

## Вада, вада, вакол вада

***МАЛАДЗЕЧНА.** Калі ўсе чакаюць дажджу з нецярпеннем (пасаджаная агародніна), жыхары дома №5А па вул. Ларына да гэтай прыроднай з'явы ставяцца па-філасофску: лье - добра, не лье - таксама. У чацвертым пад'ездзе дома ліўневая труба топіць 5 кватэр. Тым самым псуе маёмасць і веснавы настрой.*

Як запэўнілі нас у ЖЭУ-2, настрой у "ларынцаў" больш псавацца не будзе - дэфекты будаўніцтва ліквідаваныя. Наколькі пытанне знятае - пакажуць ападкі.

*Аддзел інфармацыі.*

## Надвор'е на заўчора

МАЛАДЗЕЧНА. У нядзелю ў другой палове дня каля Краснага пачаўся нябывала моцны лівень. Праз некалькі хвілін з глiністага пагорка на паўднёва-усходнюю частку вёскі цяклі сотні гразевых ручаёў. Цэнтральная вуліца на выездзе ў Мінск аказалася амаль непраезнай, ад патокаў вады дзесяткі хат ператварыліся ў астравы, а агароды сталі падобныя на рысавыя палі.

Лівень скончыўся і пацярпелыя ад наваднення жыхары рыдлёўкамі прарылі канавы, каб адвесці ваду ў русла Ушы, што працякае ў нізіне. Жыллё і агароды выратавалі.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

А днём раней градзіны велічынёй з галубінае яйка пакрылі суцэльным покрывам вясеннюю зямлю пад Аляхновічамі.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

## Палітычны алімп

У зале цэнтральнай бібліятэкі прайшла сустрэча з жанчынамі горада. На яе прыехалі кансультант па краінах Усходняй і Цэнтральнай Еўропы з міжнароднай асацыяцыі хрысціянскіх жанчын **Эльс Тусіпе**, генеральны сакратар Беларускай АХЖ **Святлана Бурава**.

Падчас сустрэчы прайшоў дыскусійны клуб "Жанчыны і СМІ". Прыгожую палову ў Смаргоні турбуюць пытанні аховы здароўя, цяжарнасці непаўналетніх дзяўчынак. І роўныя правы з мужчынамі на палітычным алімпе.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

АСТРАВЕЦ

## Задаволеныя мамы

Днямі на плошчы Леніна ў райцэнтры бытавікі разгарнулі выстаўку-продаж уласных тавараў. У большасці, гэта былі трыкатажныя і швейныя вырабы.

Больш за ўсіх засталіся задаволенымі дзеці, бо іх мамы змаглі прыдбаць тут параўнальна танныя вырабы, якія ў дадатак да ўсяго былі вельмі прывабнымі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

АЎТАМАДЭЛІЗМ

## Перамаглі дынастыяй

ВІЛЕЙКА. На тыдні навукі, тэхнікі і вытворчасці, што праходзіў у сталіцы, станцыю юных тэхнікаў прадстаўлялі аўтамадэліст **Дзмітрый Беўза** (СШ №4) і радыёспартсмен **Віталь Кірыльчык** (ПТВ-124).

Хлопцы па сваіх накірунках, у якіх выступалі, сталі лаўрэатамі. Цікава, што ў Дзмітрыя бацька кіруе СЮТам, а бацька Віталя непасрэдна рыхтаваў сына да спаборніцтваў, бо ён кіраўнік гуртка радыёспорту.

*Алена ІРЫСАВА.*

## Грошы пераглядаюць штомесяц

МАЛАДЗЕЧНА. На радыёзаводзе "Спадарожнік" у канструктарскім бюро ўвялі персанальныя надбаўкі высокакласным спецыялістам за майстэрства. Памер - 70% ад акладу. Праўда, яны аднаразовыя. І штомесяц пераглядаюцца.

*Аддзел інфармацыі.*

ЧАРНОБЫЛЬ

## Ці спыніць работа цэнтра рост смерцяў?

***ВАЛОЖЫН.** Колькасць забруджаных радыяцыяй вёсак штогод змяншаецца (сёння па афіцыйных звестках іх 65). Адно з самых небяспечных месцаў - тэрыторыя Пяршайскага сельсавета. Там ад 5 да 15 кюры. У Пяршайскай школе са 180 вучняў усе маюць хворыя залозу, сэрца ці іншае.*

Можа, таму ў Пяршаях створаны цэнтр сацыяльнай псіхалагічнай рэабілітацыі насельніцтва, пацярпелага ад Чарнобыльскай катастрофы (у Беларусі іх усяго тры).

- Да нас на кансультацыі едуць з Валожына, Івянца, Ракава, - гаворыць намеснік дырэктара цэнтра, псіхолаг **Алег Акушэвіч**, - пра праблемы ж мясцовых даведваемся праз гутаркі. Хвалююць сялянаў эканоміка, распаўсюджванне п'янства, здароўе. Адгэтуль і плануем сваю работу.

Цэнтр набыў 2 швейныя машыны, і работнік **Алена Казыра** вучыць дарослых і падлеткаў шыць адзенне. **Наталля Канановіч** і дырэктар цэнтра **Яўген Бараноўскі** каардынуюць работу цэнтра "Асілак", праводзяць заняткі на кетлераўскіх трэнажорах. **Ала Валавікова** праводзіць з дзецьмі трэнінгі па развіцці іх увагі і памяці. Гурткоў шмат, і пад заказ адкрываюць любы. Запросяць на сустрэчу з вяскоўцамі любога спецыяліста. Летась праз цэнтр 42 дзіцяці, у асноўным з маламаёмных сем'яў, адпачылі ў Японіі і Італіі. Летам таксама будзе паездка за мяжу. З дапамогай аддзела адукацыі дзеці харчуюцца з разліку 80 тысяч у дзень на чалавека.



ФОТАЭЦЮД АЛЯКСЕЯ ФЯЦІСАВА.

І тым не менш, у Пяршайскім сельвыканкоме перавышэнне смяротнасці над нараджальнасцю самае вялікае ў раёне. За І квартал года нарадзілася 4, а памерлі 23 чалавекі.

*Васіль САВІЦКІ.*

ПРАВІНЦЫЯЛУ

***ЖДАНОВІЧЫ.** На рынку падрыхтуйцеся да сустрэчы з махлярамі. Як правіла, яны выбіраюць правінцыялаў - беспамылкова вылічваюць іх у натоўпе.*

## Тэхналогія падману

Да вас падыходзіць добра апрануты мужчына, вітаецца і прадстаўляецца супрацоўнікам фірмы з гучнай назвай. Паведамляе, што вам моцна пашанцавала, бо сёння ў дырэктара фірмы юбілей, а вы з'яўляецеся тысячным кліентам яго прадпрыемства. Таму вас чакаюць падарункі: будзільнік, мікрафен фірмы "Philips", электронная запісная кніжка, набор пластмасавага посуду, нажніцы, якія ўсе рэжуць і г. д. Усё гэта дэманструецца з вялізнай скорасцю ў ярка размаляваных скрынках. Але, каб усё гэта атрымаць, вам трэба стаць тысячным кліентам. Дзеля гэтага вам прапануюць купіць па цане "удвая танней" рэальнага кошту набор для кухонных спецый быццам з серабра.

Калі вы "павяліся" на падарункі і скідку ў 50% і набылі гэтую рэч, то дома вас чакае расчараванне. Пры больш пільным аглядзе набытыя рэчы аказваюцца азіяцкім шырспажывам коштам у некалькі разоў менш, чым вы плацілі. Дармавы сыр бывае толькі ў пастцы.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

## Ждановічы прапануюць для гурманаў

Амар 1 шт. .................... 470000 р.
Лапкі жабіны 1 кг .................... 1000000 р.
Крэветкі 1 кг .................... 530000 р.
Мідыі ў ракавінах 0,5 кг .................... 375000 р.
Кальмар 1 кг .................... 180000 р.

## Новыя формы ашуканства

ВІЛЕЙКА. 300 тысяч рублёў заплаціла сям'я з вул. Чапаева за міжнародныя тэлефонныя размовы. Як высветлілася, па кватэрах хадзіў "сусед з суседняга пад'езда" і прасіў дазволіць патэлефанаваць. Сын-школьнік дазволіў.

А ў раёне пачалі хадзіць грамадскія "падатказборшчыкі" і браць з вясковых бабуль падатак за зямлю - 200 тысяч.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

## Дапамагай, аднак пільнасць не губляй

ВІЛЕЙКА. Ля вёскі Мішуты адбыўся разбойны напад на вадзіцеля прыватнага аўтамабіля "Опель".

Спыніўшыся на шашы ля паламанай машыны, ён узяў калегу на трос і працягнуў некалькі сотняў метраў. Замест падзякі "небарака" схапіў жалезны прут і перацягнуў памагатаму па спіне, разбіў галаву. Той ледзь уцёк. На сваім транспарце.

Злачынцу ўзялі ў Смаргонскім раёне. У міліцыі той сказаў, што сапраўды хацеў забіць вадзіцеля і завалодаць машынай. Цела меркаваў патапіць у Нарачанцы.

*Алена ІРЫСАВА.*

## Нам хлеба не трэба, нам "Фенікс" давай

МАЛАДЗЕЧНА. Ачаг таксікаманіі выяўлены ў СШ №4. 13-14-гадовыя вучні **Аляксандр Б., Дзяніс Б., Аляксандр Г.** "адрываліся" на будаўнічай пляцоўцы па вул. Прытыцкага. Як кажуць, на густ і колер таварыша няма. У кожнага была свая любімая хімія - ацэтон, клей "Фенікс" ці "Момант".

*Аддзел інфармацыі.*

## Для каго дзяжурыў цягач

ВІЛЕЙКА. У аўтапарку №6 выкралі дзяжурны цягач КрАЗ. Яго бачылі на чыгуначным пераездзе, што ў Любанскім напрамку.

Знайшлі машыну ў лесе недалёка ад вёскі Заазер'е. Каму спатрэбіўся жалезны гігант, невядома.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

